Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10.2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года | 23 (531) 10 чэрвеня 2010 года | Кошт **свабодны**



Філіял «Падсвільскі вінзавод» дзяржаўнага прадпрыемства «Полацкі вінаробчы завод»
ЗАПРАШАЕ НА РАБОТУ
**начальніка аддзела продажу**
(патрабаванні: адукацыя вышэйшая, досвед працы па збыту прадукцыі не менш 3 гадоў).
Тэрмін прадстаўлення прапаноў і дакументаў 20 дзён з дня апублікавання абвесткі.
Тэл.: 3-58-34 (аддзел кадраў); 3-51-84 (прыёмная).
УНП 300986731




воз. Чачалі
Фота Ул. Скрабатуна

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ñóêâåööå ìàëàäûõ òàëåíòà¢

■ Кастусь Александровіч

**Напрыканцы чарговага навучальнага года парадавалі сваіх педагогаў юныя выхаванцы Пастаўскай дзіцячай школы мастацтваў.**

Добра зарэкамендаваўшая сябе раней і на міжнародным узроўні вучаніца 3-га класа, цымбалістка Аляксандра Барысюк бліскуча выступіла на адкрытым рэспубліканскім фестывалі-конкурсе джазавай і эстраднай музыкі “Джаз-тайм-2010” у Салігорску. Журы конкурсу, у якое ўваходзілі вядомыя кампазітары і музыканты з Беларусі, Расіі і Швецыі прысудзіла пастаўчанцы ганаровае 2-е месца ў намінацыі “салісты”. Гэта таленавітая зорачка паралельна з гэтым вучыцца ў школе і як піяністка і ўжо на прайшоўшым у Полацку конкурсе маладых выканаўцаў памяці М. Пятрэнкі таксама атрымала дыплом лаўрэата другой ступені. З дыпломам трэцяй ступені вярнулася дамоў і юная пастаўская піяністка Вераніка Пусько. Яшчэ адзін выхаванец школы мастацтваў з Пастаў, вучань 4-га класа Яўген Вайцяхоўскі на гэтым конкурсе быў лепшым сярод баяністаў. Разам з Сашай ён зараз рыхтуецца да конкурсу “Хто каго” у праграме чарговага XIV Міжнароднага фестываля народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”, які пройдзе ў іх родным горадзе сёлета 2 - 4 ліпеня. Дарэчы, летась яны там былі абодва сярод лепшых і ўжо звярнулі на сябе ўвагу карыфеяў айчыннай музыкі.

Äîêø ûöê³ ðà¸í

# Ó÷àêàíí³ ïåðàìåí

■ Станіслаў Раманчук

**Пасля серыі рэарганізацый у галіне малочны завод і ў Докшыцах, як у Браславе, Мёрах, страціў сваю самастойнасць і стаў толькі вытворчым цэхам больш магутнага Лепельскага малочнакансервавага камбіната.**

Цяпер на гэтым філіяле займаюцца ў асноўным прыёмкай і дастаўкай ахалоджанага малака на галаўное прадпрыемства. Праўда, каб захаваць працу для 90 яго работнікаў, заняліся тут і выпускам каля 10 найменняў сыроў мяккага тыпу. Каб мець нейкую перспектыву ў будучым, з дапамогай лепельчан пачалі сёлета ў цэху рамонт з далейшай мадэрнізацыяй вытворчасці. На гэтыя мэты партнёр выдзеліў ужо першы мільярд рублёў. За гэтыя сродкі набылі частку абсталявання, сучасныя вакуум-упаковачныя апараты і іншыя механізмы, а таксама новы малакавоз. Да канца года намечана завяршыць неабходны рамонт, а потым заняцца тэхпераўзбраеннем вытворчых працэсаў. Павелічэнню аб’ёмаў выпускаемай прадукцыі дапаможа пераход кацельні цэха на прыродны газ. Пасля завяршэння рэканструкцыі гэтага вытворчага ўчастка, яго будзе не пазнаць не толькі знешне, бо тут будзе новая вытворчая лабараторыя і, магчыма, з’явяцца лініі па выпуску тварагу і паўцвёрдых сыроў.

# Ó íàñòóïíûì ãîäçå Â³öåáñê ïðûìå êîíêóðñ "Ì³ñ ÑÍÄ"

■Яна Ільіна

**Абаяльная бландынка Марыя Велічко - другакурсніца Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны - стала пераможцам на міжнародным міжвузаўскім конкурсе прыгажосці "Міс СНД - 2010", які праходзіў у расійскім Арэнбурзе.**

У конкурсе брала ўдзел 10 вядучых сельскагаспадарчых ВНУ Расіі, Украіны, Казахстана. Беларусь была прадстаўлена на гэтым змаганні прыгажунь упершыню.

Раней Марыя Велічко ўдзельнічала ў конкурсе прыгажосці "Каралева Вясна-2010", выйшла ў паўфінал конкурсу "Міс Беларусь-2010". На конкурсе "Міс СНД - 2010" віцебская прыгажуня пакарыла журы ва ўсіх намінацыях: візітоўцы пра сябе і ВНУ, дэфіле ў народным і дзелавым гарнітурах, у вячэрнім уборы і творчым конкурсе.

Акрамя тытула "Міс-СНД - 2010" Маша атрымала ва ўзнагароду карону, дыплом, залатое калье і... апетую ў песні арэнбургскую пуховую хустку.

Па ўмовах конкурсу ў 2011 годзе прыгажунь з розных ВНУ СНД будзе прымаць установа, дзе вучыцца пераможца, – гэта значыць, віцебская ветакадэмія.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Äàñïàäîáû àç¸ðíû êðàé

■ Чэслаў Якубовіч

**Шэраг значных мерапрыемстваў адбылося сёлета ў Браслаўскім раёне ў дні, калі старажытны райцэнтр адзначыў 945-ю гадавіну свайго заснавання.**

Чарговы фестываль мастацтваў “Браслаўскія зарніцы”, які бярэ пачатак яшчэ з даваенных масавых паваятовых святаў песні, стаў самым прадстаўнічым за апошні час і сабраў гасцей, артыстаў з 8-мі краін. Таксама ў гэтай маляўнічай мясцовасці ўпершыню ў гісторыі Беларусі прайшло прадстаўнічае міжнароднае аўтаралі гоначных машын “Славянскі кубак”, якое было ўнесена ў афіцыйны каляндар спаборніцтваў пад эгідай сусветнай міжнароднай федэрацыі. Яшчэ раней сюды палюбілі прыязджаць на трасы, на якіх можна разагнацца па прамой і паказаць сваё майстэрства на спецучастках з віражамі і трамплінамі, беларускія аўтагоншчыкі. На гэты раз акрамя беларусаў на ралі прыехалі мацнейшыя гоншчыкі з Прыбалтыкі, Расіі і Украіны, усяго 55 экіпажаў у складзе вадзіцеля і штурмана. На працягу двух дзён яны на вялікай хуткасці пераадолелі амаль 400 кіламетраў, з якіх 155 км на хуткасных участках. Да фініша здолелі дабрацца толькі 37 спецмашын, а званне пераможцаў дасталася шведам Патрыку Флодзіну і Эмілю Аксельссану на аўтамабілі аўтагіганта “Subary”, якія выступалі за адну з расійскіх каманд. Цяпер азёрны край прэтэндуе ў перспектыве на правядзенне тут аднаго з этапаў першынства Еўропы па аўтамабільных гонках.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 10.06.10 | | | | пятн.11.06.10 | | | сб. 12.06.10 | | нядз.13.06.10 | | 14.06.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | - | - - | - - |
| Тэмпература, °С | +12 | +15 | +24 | +20 | +15 | +19 | +25 | +20 | +27 | +13 | +19 | +10 | +13 |
| Ціск, мм | 747 | 747 | 745 | 745 | 744 | 743 | 742 | 738 | 737 | 740 | 742 | 744 | 749 |
| Вільготнасць, % | 93 | 96 | 69 | 90 | 98 | 89 | 66 | 89 | 58 | 77 | 46 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю-В 4 | Ю-В 4 | Ю 3 | С-В 4 | С-В 4 | В 4 | Ю-В 3 | Ю-З 3 | З 5 | З 5 | З 7 | С-З 5 | С 7 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Многія беларусы парадаваліся таму, што і пасля 1 ліпеня пошліны на ўвоз у краіну аўтамабіляў фізічнымі асобамі не зменяцца. Нарэшце з'явіўся і доўгачаканы ўказ аб стварэнні Нацыянальнага агентства інвестыцый і прыватызацыі, што можа паскорыць правядзенне ў Беларусі рынкавых рэформ. Эксперты МВФ пазітыўна ацанілі таксама перспектывы нашай краіны па аднаўленню высокіх тэмаў росту эканомікі, з фондам можа прадоўжыцца супрацоўніцтва па ранейшай праграме стэнд-бай. Пакуль краіна ў 1-м квартале прыцягнула 2,2 млрд. USD замежных інвестыцый.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Польшча.** Урадавая камісія пацвердзіла, што прычынай катастрофы прэзідэнцкага самалёта пад Смаленскам стала памылка пілотаў, якія пайшлі на празмерную рызыку.

**Францыя.** Краіна вырашыла перагледзець цяперашні пенсійны ўзрост – 60 гадоў, адзін з самых нізкіх у ЕС, пакуль да 62 гадоў і пагадзілася выратаваць еўра любой цаной.

**Літва.** Вядомы бізнесмен і экс-прэм'ер краіны Браніслаўас Лубіс прапанаваў Беларусі ўзяць у доўгатэрміновую арэнду вялізны тэрмінал у Клайпедскім марскім порце.

**КНДР.** Улады прывялі ў стан павышанай баявой гатоўнасці сваю вялікую мільённую, напоўгалодную армію, пагроза вайны з Карэяй выклікала паніку на сусветных рынках.

**Італія.** Услед за іншымі дзяржавамі ЕС краіна ўвяла рэжым эканоміі, у 2011-2013 гадах дзяржаўныя расходы вырашана скараціць, а на 24 млрд. EUR - бюджэтны дэфіцыт.

**Расія.** Прэм'ер-міністр РФ У. Пуцін заззначыў, што для ўвядзення ў дзеянне з 1 ліпеня Мытнага кодэкса з РБ і Казахстанам абмяркоўваюцца яшчэ 7 з 18 праектаў дагавораў.

**Ісландыя.** Вядомы вулкан Эйяф'ядлайокудль нарэшце спыніў сваю актыўнасць і перастаў страшыць усю Еўропу, з-за яго хмараў попелу было адменена раней мноства авіярэйсаў.

**Англія.** Многіх жыхароў краіны расчаравалі дзіўныя талісманы Алімпіяды – 2012 года ў Лондане – Уэнлок і Мандэвілл, падобныя на іншапланецян і на міфалагічных цыклопаў.

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама дамовіўся з прадстаўнікамі Пентагона і Кангрэса пра легалізацыю да канца года геяў і лесбіянак у арміі ЗША, ім не трэба хаваць свае пачуцці.

**Польшча.** Пасля моцных дажджоў пагроза паводкі ахапіла адразу 5 ваяводстваў на поўдні краіны і сталіцу Варшаву, пад вадой апынуліся дзесяткі населеных пунктаў, былі ахвяры.

**Новая Зеландыя.** У сталіцы краіны Уэлінгтане ў парадку эксперымента на працягу 2-х тыдняў працавалі прадуктовы магазін, дзе ўсе шматлікія тавары раздаваліся бясплатна.

**Расія.** Чарговы за паўгода тэракт вечарам у Стаўрапалі забраў жыцці 7 чалавек, было паранена больш 40 гараджан перад канцэртам дзяржаўнага ансамбля танца з Чачні.

**Літва.** Беларускі пасол у Вільнюсе Уладзімір Дражын ацаніў патэнцыял супрацоўніцтва з літоўскім бізнесам толькі па 8-мі асноўных інвестпраектах у 450 млн. USD.

**Японія.** Група вучоных краіны вынайшла на аснове нанатэхналогій суперсучасныя дыскі на змену DVD, на адным такім можна запісаць столькі інфармацыі, колькі на 100 раней.

**Канада.** У адным з азёр правінцыі Антарыо знайшлі невядомую дагэтуль навуцы мёртвую жывёліну, якая нагадвала выдру з аблысеўшай галавой, яе выцягнуў з вады сабака.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** У праекце дырэктывы № 4 з'явілася нават прапанова ліквідаваць Камітэт па цэнаўтварэнню ў Беларусі, што азначае карэнную ломку існуючай эканамічнай мадэлі.

**Салігорск.** Упершыню айчыннае РУП "Беларуськалій" выключылі са спіса 88 самых высокарэнтабельных прадпрыемстваў Беларусі – донараў нацыянальнага развіцця.

**Магілёў.** Выступаючы перад студэнтамі, А. Лукашэнка прызнаў, што летась заходні фонд МВФ выратаваў Беларусь, бо быў амаль поўнасцю выбраны наш залатавалютны рэзерв.

**Мінск.** Верхняй палатай парламента – Саветам Рэспублікі стаў кіраваць 71-гадовы акадэмік НАН Беларусі Анатоль Рубінаў, яго пасада – трэцяя па значнасці ў краіне.

**Гродна.** Галоўны інжынер "Белэнерга" Аляксандр Сівак пацвердзіў, што Беларусь гатова пачаць транзіт 1,5 млрд. кВт-г. за год украінскай электраэнергіі ў суседнюю Літву.

**Мінск.** Дэлегацыя дзелавых колаў Беларусі накіравалася ў выставачную сталіцу Польшчы – Познань на буйнейшую міжнародную выставу "ITM POLSKA" з удзелам 1 тыс. фірм.

**Рагачоў.** Пасля пяці месяцаў пошукаў аператыўнікі РАУС знайшлі і затрымалі групу злачынцаў, 4 беспрацоўных з Магілёва, якія абакралі і падпалілі царкву М. Цудатворцы.

**Мінск.** На працягу апошніх 10 гадоў пасажырапаток на цягніках Беларускай чыгункі, як паведаміў начальнік БЧ А. Сівак, зменшыўся амаль на 50 %, саступіўшы аўтатранспарту.

**Бабруйск.** Праверка Камітэта дзяржкантролю выявіла ў горадзе 33 незавершаныя аб'екты, на якія ўжо патрачана болей 41 млрд. рублёў, ФАК ў п. Туголіца узводзяць з 1991 года.

**Мінск.** Пасольства Англіі ў РБ выступіла ад імя ЕС з заявай-асуджэннем вобыскаў у 24 гарадах краіны ў офісах і на кватэрах кампаніі "Гавары праўду" і арыштаў яе лідэраў.

**Мазыр.** У рамках праекта ЕС у горадзе прэзвялі масавае медабследванне жыхароў, на стварэнне цэнтра па лячэнню хворых з радыяцыйных раёнаў ЕС выдзеліў 1 млн. EUR.

**Магілёў.** Абласны суд пазбавіў волі на 6 і болей гадоў траіх былых супрацоўнікаў аддзела наркакантролю УУС з Віцебска за грубейшыя парушэнні закона, злоўжыванне ўладай.

**Гродна.** На працягу 6 дзён старажытны горад жыў 8-м Рэспубліканскім фестывалем нацыянальных культур, які сабраў шматлікіх гасцей з Прынямоння, усіх абласцей краіны.

**Барысаў.** Пры затрыманні ў горадзе групы злачынцаў, якая займалася крадзяжамі аўтамабіляў, быў паранены супрацоўнік Дзяржаўтаінспекцыі, па справе ідзе следства.

**Мінск.** У ходзе інтэрактыўнага галасавання на ток-шоу "Выбар" на тэлеканале АНТ 87 % гледачоў адказалі, што не вераць у бяспечную працу АЭС, Літва катэгарычна супраць яе.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Пасля заканчэння ацяпляльнага сезона запазычанасць насельніцтва за паслугі ЖКГ рэзка вырасла і перавысіла па вобласці 7,6 млрд. рублёў, летась выселілі 32 сям'і.

**Наваполацк.** У адрозненне ад калег з Мазыра па выніках 1-га квартала НПЗ "Нафтан" спрацаваў з адмоўнай рэнтабельнасцю – 0,5 % з-за арыентацыі на ўнутраны рынак.

**Верхнядзвінск.** Вядучае ў раёне прадпрыемства, ААТ "Інвет", атрымала вялікі заказ на пастаўку ў Расію партыі з 4-х тысяч сваіх навінак – сучасных боксаў для цялят.

**Гарадок.** Адно з буйнейшых азёр рэгіёна Лосвіда зарыбілі 2 тонамі малькоў белага амура, дастаўленымі на трох спецаўтамабілях з рыбгаса "Палессе" Пінскага раёна Брэстчыны.

**Лепель.** На мясцовым МКК марскім шляхам праз порт Клайпеды адправілі ў Венесуэлу чарговую партыю 500 тон сухога малака, туды сёлета ідзе палова выпускаемай прадукцыі.

**Віцебск.** На заводзе трактарных запчастак выпусцілі пробную партыю экскаватараў-пагрузчыкаў высокай грузападымальнасці, на чарзе выпуск крана-маніпулятара.

**Сянно.** Пасля выхаду з турмы 26-гадовы жыхар раёна забіў нажом 77-гадовую старую і забраў у сваёй ахвяры ўсяго толькі мабільны тэлефон і зарадчае прыстасаванне да яго.

**Віцебск.** Па выніках праверак падатковых служб за 4 месяцы года на Віцебшчыне выяўлена 615 фактаў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, было канфіскавана 5 аўто.

**Мёры.** У райаддзеле міліцыі распачалі крымінальную справу супраць 19-гадовага беспрацоўнага вяскоўца, які ўкраў металічную лодку з берага возера, але не паспеў збыць.

**Віцебск.** У мясцовай СШ № 12 адкрылася ўнікальная музейная экспазіцыя, прысвечаная каля 50-ці ганаровым грамадзянам горада над Дзвіной, сабраны іх асабістыя рэчы і дакументы.

**Талачын.** Раён стаў адным з самых праблемных на Віцебшчыне па колькасці інфіцыраваных на ВІЧ (35 выпадкаў), усяго па вобласці 553 захварэўшых на СНІД.

**Віцебск.** Дырэктар дырэкцыі фестываля "Славянскі базар" Радзіон Басс прызнаў, што дагэтуль не пагашаны доўг 461 млн. рублёў перад партнёрамі за леташні фестываль.

**Лепель.** Дзікі кабан, які нечакана выбег на лясную аўтамабільную дарогу перад ехаўшым па ёй матацыклістам і сутыкнуўся з тэхнікай, стаў прычынай трагічнай гібелі чалавека.

**Віцебск.** У касах горада пачаўся продаж білетаў на "Славянскі базар", сольныя канцэрты дадуць Ю. Антонаў, Ваенга, С. Міхайлаў, Д. Хварастоўскі, Валерыя, С. Захараў і іншыя.

**Браслаў.** На працягу 3-х дзён праходзіў чарговы фестываль "Браслаўскія зарніцы", на Замкавай гары адбыўся рыцарскі турнір "Меч Брачыслава", прайшлі канцэрты па раёну.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**1524** усяго толькі ў студзені-красавіку сёлета ў Беларусі, па дадзеных Нацыянальнай аўтамабільнай асацыяцыі, было прададзена ў афіцыйных дылераў новых легкавых і грузавых аўтамабіляў. З-за ўведзеных правілаў гульні на гэтым рынку і новых мытных пошлін для юрыдычных асоб парасійску ў нас аб'ёмы прадаж зменшыліся амаль у 3 разы! І гэта яшчэ не канчатковы вынік, бо Расія з Казахстанам аб'явілі аб магчымым увядзенні з 1 ліпеня агульнага Мытнага кодэкса і без беларусаў, пакінуўшы для нас магчымасць далучыцца да гэтага саюза. Пакуль толькі пошліны на расійскія нафтапрадукты і нафту, якія Масква не збіраецца адмяняць для Мінска, выратоўваюць фізічных асоб з Беларусі ад рэзкага павышэння цэн на папулярныя патрыманыя іншамаркі. Перамовы па гэтаму пытанню працягваюцца і пры пэўных умовах беларускі бок можа пагадзіцца з Расіяй і пайсці на крайне непапулярныя рашэнні для айчынных аўтамабілістаў і патэнцыйных выбаршчыкаў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Цяпер жа айчынныя аўтасалоны апынуліся ў крытычным становішчы, з-за дарагоўлі мала хто з суайчыннікаў здольны купіць новыя іншамаркі.

Сапраўды, далёка не кожная беларуская сям'я валодае свабодным капіталам у межах 15-20 тысяч, як мінімум, USD. Між тым, у суседняй, поўнасцю капіталістычнай Расіі ў дакрызісныя 2007-2008 гады прадавалася каля 2,5 млн. штук штогод новых легкавушак, з якіх толькі трэць складалі іх айчынныя "Жыгулі" (беларусы дацягнулі да сціплых 27 тысяч аўто). І яшчэ адно параўнанне не на нашу карысць. Зараз кожны з 55 рускіх ездзіць на новым аўто, у Беларусі такі паказчык – больш 500, альбо розніца больш чым у 10 разоў. Асноўная маса расіян ужо не жадае задавальняцца машынамі "секонд-хенд", як мы.

Ды і падтрымліваць быццам уласнага аўтавытворцу Расіі не выпадае, бо ў іх як грыбы растуць замежныя аўтазборачныя заводы. На самой справе, гэта толькі адгаворкі, што нашы суседзі непакояцца, што на іх рынак патокам паваляць патрыманыя іншамаркі беларускіх перакупшчыкаў. У рэальнасці, справа ў цяперашняй палітыцы крамлёўскага кіраўніцтва, якое канчаткова адмовілася ад ідэі ўскоснымі датацыямі ў выглядзе танных энерганосьбітаў умацоўваць беларускую эканоміку.

Да таго ж, палова "Белтрансгазу" ужо расійская, доля расіян у Мазырскім НПЗ болей 42 %. У Маскве ведаюць, якім чынам пройдуць у Беларусі чарговыя прэзідэнцкія выбары, і ўжо прамым тэкстам кажуць беларускай правячай эліце, што рыхтуйцеся, сябры, да рэзкага павышэння цэн у 2011 годзе на расійскую нафту і газ. Гэта аб'ектыўны працэс, бо побач дзве эканамічна супацьлеглыя сістэмы, колькі б лухты не казалі пра быццам адзін народ. Пэўны ажыятаж вакол адзіных мытных пошлін пакуль дапамагае зарабляць неблагія барышы толькі беларускім перагоншчыкам і перакупшчыкам машын.

Яшчэ адна праблема, што занадта шмат у нас не надзейнай тэхнікі на дарогах, а звычайнага аўтамабільнага смецця, які не ўбачыш у Еўропе. Еўрапейцы жывуць так, што здольныя праз 5, максімум 7 гадоў мяняць у сябе машыны, у іх паспяхова дзейнічае цывілізаваная сістэма замен са скідкай старых патрыманых легкавушак. Нам да гэтага, як і да дастойнага ўзроўню жыцця, яшчэ вельмі далёка. Ніяк у нас не могуць у краіне стварыць з дапамогай замежных інвестараў зборку аўто замежных марак, іранская "Саманды" надвор'е тут не робяць.

Пры цяперашнім курсе дамаўляцца нават з расіянамі становіцца ўсё цяжэй. Беларусь пастаўлена перад выбарам дачакацца нейкіх прэферэнцый ад Мытнага саюза, калі ён дарасце да адзінай эканамічнай прасторы. А пакуль нам прапануюць прыняць непапулярныя правілы і жыць па дыскрымінацыйных законах, згубіўшы некалькі млрд. долараў з-за ўведзеных пошлін на "чорнае золата". З усмешкай, шчыра кажучы, успрымаюць у Маскве нашы намеры разрульць гэту праблему шляхам перапрацоўкі заакеанскай венесуэльскай нафты.

У чэрвені трэба чакаць цікавага развіцця далейшых падзей. Мяркуючы па ўсім, нам, беларусам, трэба рыхтавацца да горшага і да непазбежнага зацягвання паясоў у вялікай геапалітычнай гульні на постсавецкай прасторы ад Брэста да Курыл.



Рэспубліканскі грамадскі арганізацыйны камітэт па святкаваньні 660-годдзя Вялікага Вітаўта і 600-годдзя Грунвальдскае (Дубровенскае) Перамогі

220116, Менск, пр-кт Праўды, 8-111 тэл. +375 29 551-32-36; +375 29 335-24-94



# Святкаванння перамогі пад Грунвальдам – далучайся!

**У план мерапрыемстваў, распрацаваных Рэспубліканскім грамадскім аргкамітэтам, уваходзіць фотавыстава, нацыянальная мастацкая выстава, навуковая канферэнцыя, фэст сярэднявечнай музыкі, трохдзённая паездка беларускай дэлегацыі на Грунвальдскае поле ў Польшчу.**

Прыкладны каштарыс праграмы складае 33 000 000 рублёў, у тым ліку:

1. Выраб плакату на выставу “Грунвальд за смугою часу” – 600 000 рублёў.

2. Выраб рэканструкцыі баявой харугвы ВКЛ з 2 бакавымі выявамі, з вышыўкай, аплікацыямі, малюнкамі – 1 200 000 рублёў.

3. Выраб копіі харугвы Менскае зямлі – 1 200 000 рублёў.

4. Аплата транспарту па маршруце: Мінск-Ліда-Гародня-Беласток-Грунвальд-Мальборк-Мінск з разліку 40 даляраў на чалавека, разам 4000 дал. за 2 аўтобусы.

5. Аплата пражывання ў студэнцкіх гарадках Польшчы па 10 дал за 1 месца, разам – 3000 дал. за 3 ночы. Аплата харчавання – за ўласныя грошы ўдзельнікаў паездкі.

6. Аплата арэнды памяшкання і харчавання ўдзельнікаў міжнароднае навуковае канферэнцыі на 30 асобаў – 6 000 000 рублёў.

7. Аплата працы 15 ўдзельнікаў фэсту сярэднявечнай музыкі – 3 000 000 руб.

На думку намесніка старшыні аргкамітэта Міколы Купавы, грамадскасць мусіць зрабіць усё магчымае, каб адзначэнне 600-годдзя Грунвальдскай перамогі прайшло на належным узроўні. У найбуйнейшай бітве сярэднявечча з боку ВКЛ прымалі ўдзел каля 30 вайсковых харугваў. Нашыя продкі ў 1410 годзе прадэманстравалі прыклад мужнага самаахвярнага змагання за свабоду і заслужылі павагу з боку іншых еўрапейскіх краінаў. Больш за 500 год пасля Грунвальда немцы не адважваліся нападаць на нашу краіну.

Аргкамітэт запрашае ўсіх ахвотных далучацца да супольнае працы для адналення гістарычнай памяці народа, нацыянальнай годнасці і павагі да Беларусі з боку іншых краінаў. Ад падтрымкі кожнага залежыць, наколькі праграма святкавання будзе рэалізаванай. Прадстаўнікі арганізацый, якія фундуюць адзначэнне Грунвальдскай перамогі, стануць пачэснымі гасцямі на мерапрыемствах, яны будуць забяспечаны месцамі ў аўтобусе і бясплатнымі візамі для паездкі ў Польшчу. Аб намеры падтрымаць арганізацыю святочных мерапрыемстваў неабходна неадкладна паведаміць у аргкамітэт па тэлефонах 2063317, 8-029-5513236 (Мікола Купава), 8-029-7651824 (Зміцер Марчук).

***Рэспубліканскі грамадскі арганізацыйны камітэт па святкаванню 660-годдзя Вітаўта Вялікага і 600-годдзя Грунвальдскай (Дубровенскай) Перамогі.***



**Замак крыжакоў у г. Мальборк** (цяпер Польшча)

# Завяршаецца адбор матэрыялаў на VI Міжнародны каталіцкі фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм «Магніфікат»

**15 чэрвеня завяршаецца адбор матэрыялаў на Міжнародны каталіцкі фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм «Магніфікат-2010».**

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар Рымска-каталіцкай царквы на Беларусі ксёндз Аляксандр Амяльчэня, сёлета фестываль адкрыецца 7 верасня і на працягу пяці дзён пройдзе ў Мінску, Глыбокім і вёсцы Удзела Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Журы фестывалю ўжо атрымала 50 фільмаў і праграм з 16 краін.

Усім, хто жадае прадставіць свае работы на фестывалі, неабходна запоўніць форму ўдзельніка. Падрабязную інфармацыю можна атрымаць на сайце творчай акцыі (www.signis.by).

Фестываль «Магніфікат» з'яўляецца аглядам накіраваных на евангелізацыю грамадства і падтрымку агульначалавечых каштоўнасцяў работ беларускіх і замежных майстроў кіно і тэлебачання. Заснавальнікамі форуму з'яўляюцца Каталіцкая асацыяцыя для камунікацый «Signis – Беларусь», Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкай царквы на Беларусі, рэдакцыя культурна-рэлігійнага часопіса «Дыялог», унітарнае прадпрыемства «Студыя «Стоп-кадр». Фестываль праводзіцца пад патранатам Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Беларусі.

У V фестывалі «Магніфікат», які адбыўся ў Глыбоцкім раёне 23 – 27 чэрвеня 2009 года, удзельнічалі фільмы і тэлепраграмы з 16 краін.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

# Выйшла дзіцячая кніга пра Грунвальдскую бітву

**Аўтар кнігі – полацкі гісторык, выкладчык Полацкага ўніверсітэта Юры Усціновіч. Кніга называецца “Яська і конік ягоны Грыўка” і адрасаваная маленькім чытачам.**

Напісаная кніга ў быліным стылі, з добраю доляю фантазіі, аднак грунтуецца на гістарычных фактах. Шасцігадовы полацкі хлопчык Яська засмучаецца, што бацька не ўзяў яго з сабой на Грунвальдскую бітву з крыжакамі. Аднак тут, кажа аўтар кнігі, здараецца цуд.

Юры Усціновіч: «Конік Грыўка аказаўся чароўным. Яська акунуўся ў сутоку рэк Палаты і Дзвіны і коніка акунуў. Ён пераўтварыўся ў моцнага дужага волата, і конік таксама пераўтварыўся ў срэбрагрывага баявога каня. І вось яны паспелі паўдзельнічаць у бойцы, вярнуцца назад. І ўжо пасля Яська слухаў ад бацькі пра Грунвальдскую бітву – і ў тым ліку пра свае подзвігі».

Выхад кнігі прымеркаваны да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы. На прэзентацыі мастак Іван Іваноў, які аздобіў кнігу, апавёў, што цяпер ідзе праца над мультфільмам паводле гэтага твору. Плануецца выкарыстаць цікавы прыём, калі героі старажытных гравюраў “ажывуць” на экране.

*Крыніца: «Еўрарадыё»*

# Калісьці тут жыццё цякло

**Марыя Януш**

*Прысвячаецца вёсцы Забалоцце, якой ужо няма ў спісах Галубіцкага сельсавета*



Калісьці тут жыццё цякло.
Скрыпелі дзверы гулкім ранкам,
І выбягалі ўжо з вядром
Жынчыны на вільготны ганак.

Каровы шчыкалі траву,
І рохкаў парсючок у хлеве.
Высока ўзняўшы галаву,
Вітаў світанак бусел з дрэва.

Стагнала дзюба жураўля,
Нясла наверх вядро з вадою.
І адкілалася зямля –
На рэха-гул зямных прастораў.

Вось нетаропкаю хадой,
Закінуўшы на плечы косы,
Ішлі касцы, нібыта ў бой,
Збіваючы брыльянты росаў.

За хатаю, абапал сцежкі,
Шумеў багаццем агарод.
У цёплай лазні, на ўзмежку,
Змывалі свой працоўны пот.

Кідалі позірк сарамліва
Старыя яблыні праз плот.
Раслі і вішні тут, і слівы,
Бяры і еш, вары кампот.

Шаптала зернем збажына,
Схіляючы ўніз калоссе…
Чыя, скажыце, тут віна,
Што вёскі больш не засталося?!

Закончыўшы жыццёвы шлях
На грэблі ў вечным супакоі,
Пранеслі людзі на плячах,
Як крыж, свой лёс і сваю долю.

У мірны час прайшлі вайной:
Скрышылі дом, узаралі межы,
Дарога, у вёску, што вяла,
Чарнее ўжо раллёю свежай.

Пакінулі гняздо буслы,
Сад сіратліва памірае.
Груду ламачча і цаглін
Імжа слязамі палівае.

Дзе цёплы быў бацькоўкі кут,
Быллём і хмызам парасло.
Скуголіць, свішча вецер тут.
Калісьці там жыццё цякло.

# Каб навальніца не нарабіла бяды

**Найбольш небяспечнай прыроднай з'явай у Беларусі ў цёплы перыяд года лічыцца навальніца. Менавіта з мая па верасень у нашых шыротах бывае звыш 99% навальніц. У апошнія гады на еўрапейскім кантыненце ўсё часцей назіраюцца анамальныя з'явы, звязаныя з рэзкімі зменамі надвор'я. Сёлета навальніц у нашай краіне стала значна больш. Што трэба ведаць, каб гэта сінаптычная з'ява не нарабіла бяды?**

На пытанні адказвае начальнік службы гідраметэапрагназаў Рэспубліканскага гідраметцэнтра Дзмітрый Рабаў.

— Як хавацца ад навальніцы, калі яна напаткала чалавека на адкрытай прасторы?

— У час навальніцы трэба неадкладна спыніць рух і шукаць укрыцце. Лепш навальніцу перачакаць у лагчыне, канаве ці яме. На вуліцы, у парку ці лесе не трэба хавацца пад вялікімі дрэвамі, а таксама пад кронамі адзінокіх раслін.

Верагоднасць пападання маланкі ў канкрэтнае дрэва прама прапарцыянальна яго вышыні. Ад высокіх дрэў, слупоў і адзінокіх пабудоў лепш знаходзіцца на адлегласці не менш як 30—50 метраў. У лесе лепш хавацца сярод густога кустоўя. Заўважана, што ў пэўныя дрэвы маланкі б'юць часцей, а нейкія ўвогуле не чапаюць. Больш за ўсё «баявых шрамаў» заўважана ў дуба.

Даволі часта маланкі ўдараюць па таполях, елках і соснах; менш — па бярозах, клёнах і ліпах, а арэшыну амаль не чапаюць.

— Дзе перачакаць навальніцу ў населеных пунктах?

— У горадзе трэба пастарацца як мага хутчэй трапіць у краму ці жылы дом. Яны маюць надзейную маланкаабарону, а вось на прыпынках грамадскага транспарту яна значна слабейшая.

Калі да такога прыстанішча далёка, то лепей прыгнуцца, каб быць не вышэй за бліжэйшы ландшафт; ногі трымайце разам і зніміце ўсе металічныя рэчы з галавы і цела. Не раяць спецыялісты класціся на зямлю. Калі валасы ўсталі дыба ці вы пачулі гудзенне з боку буйных камянёў, агароджы, іншых прадметаў, то неабходна адразу перайсці ў іншае месца.

— Што рабіць, калі маланка заспела ў транспарце…

— Аўтамабіль з'яўляецца бяспечным прытулкам, таму ў навальніцу яго лепш не пакідаць. Трэба зачыніць вокны, апусціць аўтамабільную антэну, спыніць рух і перачакаць непагадзь на ўзбочыне ці аўтастаянцы, але далей ад высокіх дрэў.

У час навальніцы ў машыне не трэба дакранацца да металічных частак і не набліжацца да іх. А вось веласіпед і матацыкл, наадварот, — небяспечныя сродкі. Іх трэба пакласці на зямлю і адысці не менш чым на 30 метраў. Мацней за ўсё прыцягвае маланку трактар у адкрытым полі.

— Што рабіць з мабільнікам?

— Сотавы тэлефон на вуліцы лепш адключыць. Былі выпадкі, калі ўваходны званок прыцягваў да сябе маланку.

Пры выкліканні службы экстранай дапамогі трэба гаварыць толькі па сутнасці і як мага карацей.

— У навальніцу часам «нараджаюцца» шаравыя маланкі…

— Пры сустрэчы з гэтым электрычным шарыкам трэба захоўваць спакой і спыніць любы рух. Не трэба набліжацца да яго, дакранацца чым-небудзь, бо можа адбыцца выбух. Лепш не ўцякаць ад шаравой маланкі, бо з патокам паветра яна пацягнецца за вамі.

Пры навальніцах у сетцы будынкаў можа ўзнікнуць электрычнае перанапружанне, якое распаўсюджваецца па лініях электраперадач і часам прыводзіць да пагарання электрапрыбораў. Раю закрыць заглушкамі электра- і радыёразеткі, коміны, вентыляцыйныя адтуліны, форткі, бо ў іх можа залязць шаравая маланка.

Спецыялісты не рэкамендуюць карыстацца стацыянарным тэлефонам, стаяць каля акон і дзвярэй і дакранацца да водаправодных кранаў. Выключыце ўсе электрапрыборы, прасачыце, каб у памяшканні не было скразнякоў, разам з якімі можа заляцець шаравая маланка.

Не трэба паліць печ і камін, бо дым мае вялікую электраправоднасць, таму верагоднасць удару маланкі ў трубу павялічваецца. У навальніцу не трэба стаяць пад парасонам, не трымайце ў руках вуду ці іншыя падобныя прадметы. Лепш трымацца далей ад высокіх металічных канструкцый.

*Сяргей Куркач, Звязда*

# Злодзеі ўлезлі ў "Засцянковую хатку"

■ Кастусь Шыталь

**Невядомыя злодзеі абрабавалі этнаграфічны музей «Засцянковая хатка» ў Вашунаве, што пад Параф'янавам.**

Злодзеі ўзламалі дзверы і вынеслі з памяшкання цвікі, малаткі ды іншыя інструменты. Экспанаты музею зламыснікаў не зацікавілі.

«Засцянковую хатку» стварыў у дзедавай хаце старшыня Таварыства беларускай мовы Віленскага краю Юры Гіль, які памёр летась у Вільні. «Засцянковая хатка» была месцам сустрэчаў, на якія некалькі разоў на год збіраліся родныя сп. Гіля ды прыхільнікі беларушчыны з Вільні ды з розных месцаў Беларусі.



# Штосьці радуе, а штосьці засмучае


Фота Я. Самсонава

**Добраўпарадкаваная пляцоўка на скрыжаванні вуліц Кірава – Першамайская – Някрасава – зав. Кірава – справа карпатлівых рук работнікаў ААТ "Глыбоцкі аграсэрвіс"**


Фота Я. Самсонава

**Праездная частка па вул. Першамайскай не прываблівае сваім выглядам нават пасля падсыпкі.**

## У глыбачанкі скралі горны ровар коштам паўмільёна рублёў

6 чэрвеня зранку 23-гадовая жыхарка Глыбокага, якая працуе прадаўцом, прыехала на працу на горным ровары і пакінула яго каля крамы. Аднак неўзабаве заўважыла, што ровар хтосьці скраў. У 11.30 дзяўчына была ўжо ў міліцыі, дзе заявіла пра крадзеж. Супрацоўнікі РА Дэпартамента аховы затрымалі за здзейсненае злачынства мясцовага беспрацоўнага, які раней ужо быў асуджаны за крадзеж. Ровар быў вернуты ўладальніцы.

## У Расонскім раёне прайшоў фестываль беларускага каня

Як паведамілі ў аддзеле культуры Расонскага райвыканкама, такое мерапрыемства ў Беларусі арганізавана ўпершыню, і гэтае свята з'яўляецца састаўной часткай традыцыйнага рэспубліканскага фестывалю сельскага турызму «Заборскі фэст», які праводзіцца з 2005 года.

На фестывалі можна было набыць каня і конную амуніцыю на спецыяльнай выставе-продажы. Прайшлі таксама спаборніцтвы па трэйле – самым відовішчным спаборніцтве ў конным спорце, якое ўяўляе сабой праходжанне пэўнага маршруту з перашкодамі размешчаных на ім перашкод. У праграме фестывалю былі таксама адукацыйныя семінары з удзелам спецыялістаў па конегадоўлі, розныя забаўляльныя мерапрыемствы: касцюмаваны парад коней, конкурсы, катанне конна.

Фестываль «Заборскі фэст» арганізатарамі якога выступаюць Расонскі райвыканкам і грамадскае аб'яднанне «Адпачынак у вёсцы», адбудзецца ў наступныя выхадныя, 12—13 чэрвеня.

У першы фестывальны дзень тураператары з Мінска, Віцебска і Полацка правядуць прэзентацыі турыстычных маршрутаў, удзельнікаў пазнаёмяць з лепшымі аграэкасядзібамі Расонскага раёна. Госці свята змогуць пакатацца на конях, наведаць кірмаш народных умельцаў, тэатралізаваны паказ, канцэрт самадзейных калектываў, паказ кінафільмаў на гістарычную тэматыку, канцэрт бардаўскай песні ля вогнішча, дыскатэку. Завершыцца «Заборскі фэст» святам рыбака на беразе возера Белае.

## У аспірантаў будуць правяраць валоданне беларускай мовай

Пры здачы кандыдацкага экзамену па спецыяльнай дысцыпліне будзе ацэньвацца таксама веданне беларускамоўнай прафесійнай лексікі.

Такое рашэнне ў мэтах папулярызацыі і пашырэння ўжытку беларускай мовы прынялі Вышэйшая атэстацыйная камісія, Мінадукацыі і Нацыянальная акадэмія навук Беларусі.

Для гэтага ў якасці дадатковага пытання экзаменуемы павінен будзе перакласці спецыяльны тэкст з рускай на беларускую.

Новаўвядзенне пачне дзейнічаць ужо падчас сесіі ў кастрычніку-снежні 2010 года.

## Ізраільцянін будзе разводзіць асятроў на Браслаўшчыне

**Ізраільскі бізнэсмэн збіраецца пабудаваць прадпрыемства па гадоўлі рыб асятровых парод у Браслаўскім раёне Беларусі. Пра гэта паведаміла кіраўнік раённага выканкама Валянціна Высоцкая.**

Былы жыхар Даўгаўпілса, бізнэсмэн па імені Эліэзер, прозвішча якога не паведамляецца, зарэгістраваў у Беларусі кампанію «Эленор-Браслаў», арандаваў пад рыбазавод паўтара гектара зямлі, непрыдатнай для сельскагаспадарчага выкарыстання.

На гэтым участку будзе пабудавана сістэма сажалак для гадоўлі рыбы і будуць збудаваныя пабудовы вытворчага прызначэння. Прыродаахоўныя арганізацыі раёна не пярэчаць супраць новага прадпрыемства, а ўлады стварылі рэжым найвялікай спрыяльнасці фундатару.

Прадукцыю прадпрыемства плануецца экспартаваць у еўрапейскія краіны.

Як адзначае belta.by, ізраільскі бізнэсмэн таксама зацікаўлены ў Браслаўскім малаказаводзе (філіяле ААТ «Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат»), і пачаў перамовы пра супрацоўніцтва на гэтым прадпрыемстве.

*Gorod.lv і Fishretail.ru*

# Зараз парушальнік чакае пакарання

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

За перыяд вясновай забароны красавік-травень 2010 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету выяўлена 84 парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, у следчыя органы АУС накіравана 7 матэрыялаў для прыцягнення вінаватых да крымінальнай адказнасці. У парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства канфіскавана 46 браканьерскіх сетак, агульнай працягласцю больш 2 км., 22 іншых браканьерскіх снасцяў, 6 адзінак агнястрэльнай зброі, у тым ліку 2 адзінкі не зарэгістраванай, амаль 100 кг. незаконна здабытай рыбы, 120 кг. мяса дзікіх жывёл, сума пакрытай шкоды склала больш 10 млн. рублёў. На тэлефон «гарачая лінія» паступіла 23 паведамленні пра здзейсненыя правапарушэнні, затрымана 35 парушальнікаў.

Так, 21 траўня 2010 года на тэлефон «гарачай лініі» паступіла паведамленне пра незаконную здабычу рыбы сеткай на возеры Ласіцкае Пастаўскага раёна, рэйдавая група, якая выбыла, затрымала мясцовага жыхара грамадзяніна Е., матэрыялы накіраваныя ў раённы суд.

У гэтую ж ноч у міжрайінспекцыю паступіла паведамленне пра тое, што на рацэ Палавіца паблізу в. Капыльшчына ўсталяваныя браканьерскія сеткі. Каля 24 гадзін супрацоўнікамі інспекцыі затрыманы мясцовы жыхар грамадзянін З., яго ўлоў склаў 56 ляшчоў, а таксама 55 асобінаў плоткі, 58 асобінаў гусцяры і 11 асобінаў акуня, агульная вага рыбы склала амаль 38 кг., зараз парушальніка чакае пакаранне.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам за аказваемую дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў і ў барацьбе з браканьерствам. Пра ўсе парушэнні Вы можаце паведаміць на тэлефон гарачай лініі Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-28670 ці маб. 897-23-02, 890-55-28,2494549, 3512812.

# Дзіцячае свавольства можа быць небяспечным

А.Н. Ішуцін,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА « Энерганагляду»*

Наступіла лета, і большасць школьнікаў застаюцца без нагляду бацькоў, ім не трэба рабіць хатняе заданне і ў іх вызваляецца велізарная колькасць часу. Таму ў чарговы раз хацелася б закрануць пытанне пра электрабяспеку. Небяспека электрычнага току складаецца ў тым, што ён нябачны, нячутны, колеру і паху не мае, таму выявіць яго без адмысловых прыбораў немагчыма.

Асабліва небяспечны электрычны ток для дзяцей і падлеткаў, і для пазбягання няшчасных выпадкаў неабходна памятаць і выконваць правілы электрабяспекі.

- Не заходзіць за агароджы трансфарматарных падстанцый, у памяшканні трансфарматарных падстанцый.

2 траўня 2010 года ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна, Гомельскай вобласці вучань 8 класа ўзламаў замыкаючую прыладу і пранік у трансфарматарную падстанцыю, патрапіў пад дзеянне напругі і атрымаў апёкі твару, шыі і рук 2-4 ступені;

15 красавіка 2008 года на тэрыторыі ААТ «Рэчыцкая кераміка» пад дзеянне напругі патрапіў вучань 5 класа, які пранік у трансфарматарную падстанцыю з мэтай крадзяжу металу і атрымаў шырокія апёкі цела, пасля чаго быў дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне.

- Не набліжацца да абарваных, якія ляжаць на зямлі, плоце ці іншых будынках правадам ліній электраперадачы на адлегласць меней 8-10 метраў.
- Не залазіць на апоры ліній электраперадач.
- Не рабіць закідаў на правады ліній электраперадач.

27 красавіка 2008 года ў в. Светлы Бор Пухавіцкага раёна патрапіў пад дзеянне напругі ад закіду провада на фазу «А» ў пралёце апор паветранай лініі напругай 35 кв і загінуў вучань 5 класа.

- Не запускаць паперовых змеяў паблізу ліній электраперадач.
- Пры выяўленні абарванага провада лініі электраперадач ці адкрытых дзвярэй трансфарматарнай падстанцыі неадкладна паведамляць пра гэта ў Глыбоцкі РЭС па тэлефоне 2-62-41.



Выконвайце самі і патрабуйце выканання правіл электрабяспекі ад сваіх блізкіх і памятайце, што грэбаванне гэтымі правіламі можа прывесці да няшчаснага выпадку.

# «Ахова птушак Бацькаўшчыны» заклікае не падбіраць птушанят, якія згубіліся

**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) заклікае не падбіраць птушанят, якія згубіліся.**

Як паведаміў БелаПАН спецыяліст па экалагічнай адукацыі АПБ Руслан Шайкін, штогод у канцы вясны пачатку лета ў АПБ прыносяць шмат птушанят, знойдзеных грамадзянамі па-за гнёздамі. Сёлета ў АПБ ужо прынесена каля 10 птушанят, у іх ліку вушастая сава, дрозд, шпак, сініца, верабей, шэрая варона. Акрамя таго, у офіс арганізацыі пастаянна тэлефануюць грамадзяне з пытаннямі, як даглядаць знойдзеных птушанят. Паводле слоў спецыяліста, такія птушаняты асуджаныя на гібель: выкарміць іх у хатніх умовах практычна немагчыма.

У сувязі з гэтым, АПБ заклікае грамадзян, якія знайшлі птушаня, пакінуць яго на тым жа месцы. А калі птушаня сядзіць на дарозе, то проста прыбраць яго ў бок, на найбліжэйшы куст ці галінку дрэва. Як правіла, птушаня знаходзіцца пад наглядам дарослых птушак, нават калі здаецца, што яно згубілася.

Шайкін таксама адзначыў, што многія птушкі могуць праявіць агрэсію, абараняючы сваіх птушанят, у іх ліку шэрыя вароны і галкі. Пры гэтым шэрыя вароны запамінаюць зробленае чалавекам зло і пасля нападаюць на іншых людзей.

*А. Янушэўская, БелаПАН.*

# Віншаванкі

## Галіну Стэфанаўну Якубовіч

### Віншуем з 80-годдзем!



Славный твой юбилей отмечая,
Что может быть прекраснее на свете?
Желаем счастья, крепкого здоровья,
И ещё долгих лет прожить на свете.
Живи, родная, нам на радость,
Пусть не убудут твои силы,
За всё, что сделала для нас,
Огромное тебе спасибо!

*Дачка Ала і яе сям'я*

## Таццяну Уладзіміраўну Рудкоўскую

### Віншуем з Днём нараджэння!



Целуем твои руки, дорогая,
Морщинки и седую прядь волос.
И низко просим у тебя прощенья
За боль и грусть, что каждый преподнёс.
Живи подольше, человек любимый
И, главное, конечно, не болей.
Поверь, что ты нужна для внуков,
Правнуков и нас, детей.

*Дзеці, ўнукі.*

### Выпускнікам 11 "Б" класа сярэдняй школы №2 г. Глыбокае

## Дарагія выпускнікі!



Віншую Вас з заканчэннем школы!
Желаю Вам идти по жизни смело,
Желаю счастья каждому найти,
Пусть сбудется, что каждому хотелось.
В дорогу! Всем счастливого пути!

*Класны кіраўнік Лілія Уладзіміраўна.*

# Праект "Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка": абвяшчаецца новы набор удзельнікаў

**Аб'яднаны цэнтр беларускіх ініцыятываў (JuBIC), Шведскі міжнародны ліберальны цэнтр (Silc), Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (ЕГУ) і Беларускі Дом правоў чалавека ў Вільні (ДПЧ) абвяшчаюць аб новым адборы кандыдатаў на ўдзел у праекце „Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка”.**

Кандыдаты пройдуць аднатыднёвую інтэнсіўную навучальную праграму ў Вільні, распрацаваную слыннымі нарвежскімі палітолагамі, якія маюць досвед назірання ў шматлікіх міжнародных місіях. Пасля паспяховага сканчэння праграмы кандыдаты атрымаюць адмысловы сертыфікат ЕГУ і сертыфікат Silc. Акрамя курса, яны таксама прымуць удзел у міжнароднай місіі па назіранню за прэзідэнцкімі выбарамі ў Босніі і Герцагавіне альбо Латвіі 2/3 кастрычніка 2010 года, падчас якой удзельнікі атрымаюць практычны досвед у якасці акрэдытаваных, кароткатэрміновых, міжнародных назіральнікаў. Мэтанакіраваныя і актыўныя ўдзельнікі будуць запрошаныя на яшчэ, прынамсі, адну місію па назіранню цягам 2011 года.

Патэнцыйныя кандыдаты павінны:

- запоўніць он-лайн заяву (абавязкова);
- быць ад 18 да 35 год узросту (абавязкова);
- прадэманстраваць моцную грамадскую пазіцыю, быць актыўнымі (абавязкова);
- быць сябрам альбо ўдзельнікам няўрадавых арганізацыяў ці грамадскіх ініцыятываў, палітычных партый (абавязкова);
- падаць рэкамендацыю ад дзейных няўрадавых арганізацыяў, грамадскіх ініцыятываў ці праектаў, якія карыстаюцца павагай, палітычных партый. Калі ласка, звярніце ўвагу - рэкамендацыя мусіць быць даслана асобна, непасрэдна на адрас праекта eotp@eotp.info асобай, якая Вас рэкамендуе (абавязкова);
- размаўляць і разумець па-ангельску (неабавязкова);
- мець магчымасць удзельнічаць у навучанні і непасрэдным назіранні на ўвесь перыяд (з 23 верасня да 5 кастрычніка 2010 года) (абавязкова).

Папярэдні досвед у назіранні за выбарамі, міжнароднымі ці мясцовымі, ухваляецца, але не з'яўляецца абавязковым.

Заявы прымаюцца да 20 чэрвеня 2010 г. Заявы дасланыя пасля 24:00 20 чэрвеня разглядацца не будуць.

Он-лайн заяву можна запоўніць на сайце праекта (лінк будзе тут)

Усім кандыдатам будзе паведамлена аб выніках да 15 ліпеня 2010.

Абраныя кандыдаты будуць запрошаныя на сумоўе (па тэлефоне ці праз skype).

Крытэры адбору:

1. Якасць матывацыйнага ліста і вынікі сумоўя;
2. Высокі ўзровень грамадскай актыўнасці;
3. Рэкамендацыя ад аўтарытэтных і верагодных НДА, праваабаронцы, грамадскага актывіста або палітыка ці палітычнай партыі;
4. Валоданне ангельскай мовай.

## Спачуванне.

Сям'я Самсонавых выказвае шчырае спачуванне **Сіняўскаму Мікалаю** і яго родным з прычыны напаткаўшага яго гора – заўчаснай смерці жонкі

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

14 – 20 чэрвеня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 14 чэрвеня





**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** Здоровье.
**10.00** «Жизнь как жизнь».
**10.55** «Звездная жизнь» «Бизнес без шоу».
**11.35** «OFF STAGE LIFE»
**12.10 «Разрешите тебя поцеловать»**
**14.05**«Культурные люди».
**14.30** «Собственной персоной».
**15.15,18.15** Новости региона.
**15.25** Видеофильм АТН «Т-человек: влюб-ленный в риск».
**15.55 «Общая терапия»**
**17.05** «Прости меня».
**17.30** Арена.
**17.50, 00.20** «Зона Х».
**18.25 «Не родись красивой»**
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Ответный ход».
**20.30** Панорама.
**21.10** «Фестиваль нацио-нальных культур».
**21.25** Футбол. Чемпионат мира. Италия-Парагвай. Прямая трансляция.
**23.25 «Части тела-5»**
**00.25** День спорта.





**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Красный хоккей».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Микки Маус. Домашний клуб».
**11.30 «Моя жена меня приворожила»**.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.30** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15**«Обручальн.кольцо».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20«Папа на всеруки»**.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10 «Остаться в жи-вых»**. 3-я серия.
**23.10** Наши новости.
**23.25** Новости спорта.
**23.30**«Преступлениявека».
**00.05** «Авиаслалом. Чемпионат мира».
**01.05 «Говорящая с призраками»**.
**01.55** Наши новости.
**02.10-02.20** Новости спорта







**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.25** В этот день.
**09.30 «Любовь как любовь»**
**10.35 «Вечерний звон»**
**12.00** «Пра мастацтва».
**12.30 «Полюби меня снова»**
**13.25** Сериал **«Любовь как любовь»**
**14.25** Футбол. Чемпионат мира. Нидерланды-Дания. Прям.трансл.
**16.25** Женская лига.
**16.55** Футбол. Чемпионат мира. Япония-Камерун. Прямая трансляция.
**18.55 «Бухта страха»**
**19.55** Белорусское времечко.
**21.00** Калыханка.
**21.20 «Универ»** (Россия).
**21.55 «Антикиллер»**
**23.00** Женская лига.
**23.30** «Время футбола». Чемпионат мира-2010.





**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хоро-шего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хоро-шего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** «Большой город».
**15.40** «Дальние родственники».
**16.00** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Добро пожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные



подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.40 «ВЫХОД».**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25 «ДЕТИ ШПИОНОВ 3: ИГРА ОКОНЧЕНА».**

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**07:40** Кулінарныя пада-рожжы Р. Макловіча
**08:05** Басанож па свеце
**08:30** «Іншае жыццё»
**09:20** Вагон
**09:25 «Арол: крымінальная сага»**, 22 серыя
**10:25 «Загадкі Мэрдака»**,
**11:10 «Заказное забойства»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Папялушка»**, 3 с.
**17:30 «Арол: крымінальная сага»**, 22 серыя
**18:30** Аўтастопам праз Еўропу: 2 серыя, «Нямеччына»
**18:50** Прэс-экспрэс
**19:10** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:20 «Аблавушак»**,
**19:35** Еўропа сёння
**20:00** Кулінарныя пада-рожжы Р.Макловіча
**20:25** «Бялінскага, 6»,
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:40 «Костка»**,
**23:05** Аб'ектыў

